*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 19 (507)** **9 ТРАЎНЯ 2001 г.**

# 9 траўня - Дзень Перамогі над фашызмам



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9
тэл. 226-51-59



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ
220010, г. Минск, ул. Советская, 9
тел. 226-51-59

13.04.2001 № 29-06/252
На № 136 от 14.03.2001

**220005 г. Мінск вул. Румянцава, 13**
**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Алегу Трусаву.**

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь у адказ на Ваш ліст ад 14.03.2001 г. № 136 паведамляе.

1. Пытанне аб мове навучання ў агульнаадукацыйных школах вырашаецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", у якіх грамадзянам нашай краіны гарантуецца права яе выбару. Пры паступленні ў падрыхтоўчы клас бацькі ў заяве ўказваюць мову навучання. Гэта абавязковае правіла для ўсіх агульнаадукацыйных школ і г. Ліды, указанага ў лісце, у тым ліку.

2. У школах з беларускай мовай навучання, пачынаючы з падрыхтоўчага класа, усе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Для гэтага падрыхтаваны і выдадзены адпаведныя вучэбна-метадычныя комплексы. У 2000/2001 вучэбным годзе ў Рэспубліцы Беларусь працуюць 4559 агульнаадукацыйных школ: з беларускай мовай – 2822 (61,9%), з рускай – 1201 (26,3%), з дзвюма мовамі навучання – 533 (11,7%). У школах з беларускай мовай навучання навучаецца 304735 (20,3%) вучняў, у школах з рускай мовай навучання – 759624 (50,7%), у школах з дзвюма мовамі навучання – 433248 (28,9%).

Колькасць гадзін, адведзеных на вывучэнне другой мовы (рускай або беларускай), вызначаны базавым кампанентам вучэбнага плана і з'яўляюцца абавязковымі. Акрамя базавага (абавязковага) кампаненту вучэбны план змяшчае гадзіны школьнага кампаненту (курсы па выбару). Па жаданню бацькоў, зыходзячы з магчымасцяў школы, яны могуць адводзіцца на вывучэнне ў падрыхтоўчым класе курсаў "Асновы моўнай культуры", "Замежная мова", "Рытміка і танец" і інш. Таму тыя школы, якія з падрыхтоўчага класа вывучаюць замежную мову не "прыкрываюцца", як сказана ў лісце, назвай факультатыва, а робяць гэта за кошт гадзін школьнага кампаненту.

Падручнікі "Беларуская мова" 1 кл., "Беларусачка" 1 кл. пабудаваны такім чынам, што ў першай чвэрці навучанне мове вядзецца інтэгравана і большасць тэкставага матэрыялу разлічана на прачытванне настаўнікам або дзецьмі, якія ўжо ўмеюць чытаць. Да навучальнага года былі распрацаваны прыкладныя метадычныя рэкамендацыі па правядзенню інтэграваных урокаў. З улікам прапаноў настаўнікаў вядзецца работа па дапрацоўцы праграм і падручнікаў. Вашы заўвагі таксама будуць улічаны.

3. Лічым вялікай вартасцю, што падручнікі па беларускаму чытанню "Буслянка" 1, 2, 3 класы, аўтары Артур Вольскі, Ірына Гімпель, "Роднае слова" 1, 2 класы, аўтары Васіль Вітка, Марыя Шаўлоўская, "Чабарок" 3 клас аўтара Анатоля Клышкі, "Праменьчык" 2 клас, аўтары Валянціна Варапаева, Таццяна Куцанава змяшчаюць высокамастацкія творы беларускіх празаікаў і паэтаў, а таксама творы вуснай народнай творчасці. У 2000, 2001 гадах на рэспубліканскіх конкурсах "Падручнік года" падручнікі "Буквар" аўтара Анатоля Клышкі, "Буслянка" аўтараў Артура Вольскага, Ірыны Гімпель узнагароджаны дыпломамі першай ступені.

4. Нельга пагадзіцца з Вашым меркаваннем, што падручнікі па курсу "Чалавек і свет" 1-4 класы амаль не змяшчаюць матэрыялаў, прысвечаных Беларусі. На працягу ўсяго курсу, пачынаючы з падрыхтоўчага класа, падаюцца матэрыялы пра Беларусь. Напрыклад: "Прырода і чалавек" ч. I (урокі 11, 12, 31), "Чалавек і грамадства" ч. II (тэмы "Беларускае нацыянальнае адзенне"- с. 26, "Прыгажосць і ўтульнасць беларускай хаты""- с. 29, раздзел "Мой родны край"- с. 62-67; "Чалавек і свет" 2 клас, раздзел "Раслінны і жывёльны свет Беларусі" – с.72-150, с.235, раздзелы "Родны край" – с.249-263, "Чалавек і свет" 3 клас тэма "Прыродныя багацці Беларусі" – с.58-85 і інш.

Прадмет "Мая Радзіма – Беларусь" застаецца ў вучэбным плане 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы. У 2001/2002 навучальным годзе вучні атрымаюць новы падручнік, дзе знойдуць адлюстраванне ўзнятыя Вамі пытанні.

З павагай.
*Намеснік Міністра*
*Г. Д. Дылян.*

# Рэспубліканская Рада ТБМ

5 траўня 2001 года ў Менску прайшло апошняе перад з'ездам сумеснае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Францішка Скарыны і Рабочай групы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі.

Рада разгледзела праект павесткі дня з'езду, прапановы Сакратарыяту па прадстаўніцтве на з'ездзе ад розных рэгіёнаў Беларусі, прапановы Сакратарыяту па складу новых кіраўнічых органаў ТБМ, якія будуць вынесены на з'езд. Да прыкладу, у новую Раду плануецца абраць каля паловы менчукоў, каб забяспечыць большую аператыўнасць працы.

Рада разгледзела вынікі працы па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі. Рада пастанавіла вынесці на з'езд тры даклады: Леаніда Лыча, Сяргея Запрудскага і Станіслава Судніка.

Рада зацвердзіла тэкст "Дэкларацыі аб беларускай мове", які будзе вынесены на з'езд.

Рада прыняла пастанову "Аб зменах памераў сяброўскіх складак"

## Пастанова Рэспубліканскай Рады ТБМ ад 5. 05. 2001 г. "Аб зменах памераў сяброўскіх складак"

У сувязі з імклівай інфляцыяй і чарговым павышэннем мінімальнага заробку, Рада ТБМ пастанаўляе з 15 траўня 2001 года ўстанавіць наступныя памеры абавязковых штогадовых складак для ўсіх сяброў ТБМ.

1. Для грамадзянаў Беларусі:
а) для працаўнікоў – 1000 рублёў у год;
б) для беспрацоўных, пенсіянераў і студэнтаў – 300 рублёў у год;
в) для школьнікаў – 100 рублёў у год.
2. Для грамадзянаў Расіі – 20 рублёў (расійскіх) у год
3. Для грамадзянаў іншых краін – 2 $ у год.

Сяброўскія складкі можна пералічыць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



## Ахвяраванні на ТБМ

1. Віталь Станішэўскі (Менск) – 500 р.
2. Казлоўская Інна (Менск) – 500 р.
3. Ганчарова (Менск) – 500 р.
4. Бурдыка (Полацк) - 2.000 р.
5. Сановіч Алесь (Менск) – 5000 р.
6. Мудроў Вінцэсь (Наваполацк) – 500 р.
7. Мудрова Таццяна (Наваполацк) – 500 р.
8. Рымша Ангеліна (Наваполацк) – 1000 р.
9. Карпенка Віктар (Гомель) – 5000 р.
10. Жэляпаў Хропст (Віцебск) – 5000 р.





# СПРАВАЗДАЧА ТБМ ВІЛЕНСКАГА КРАЮ

**ДАВЕДКА**
**аб дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Віленскага Краю за 1991 – 2001 г.г.**

2001 год – юбілейны для ТБМ Віленшчыны, 10 год таму назад, менавіта 25 траўня 1991 года ў памяшканні СШ № 51 г. Вільні (Новая Вілейка) быў праведзены ўстаноўчы сяброў ТБМ горада Вільні і Віленскага Краю, на якім прысутнічала 95 чалавек і была створана ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.

На Устаноўчым Сходзе быў прыняты Статут і выбрана Рада Таварыства у складзе 9 чалавек:

Старшыня Рады – МАТУСЕВІЧ Марыя;
намеснік – МАКСІМЕНКА Аляксандр;
адказны сакратар – ГІЛЬ Юры
скарбнік – СІГЛЕ Ніна.

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага Краю ( яго Статут) было зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Літоўскай Рэспублікі 25 сакавіка 1992 года, у Дзень незалежнасці БНР.

(Загад Мінюста ЛР № 84-УО ад 25.03.1992 г.)

11.07.1991 г. Таварыства было зарэгістравана згодна са Статутам і Пастановай Вярхоўнага Савета БССР "Аб рэгістрацыі Статута Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ад 28.09.1989 г. за № 2884-ХІ у Сакратарыяце ТБМ імя Ф. Скарыны 11.07.91 г.

25 сакавіка 1994 года Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага Краю зарэгістравана ў Беларускім Таварыстве па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой (Беларускае таварыства "Радзіма").

28 кастрычніка 1996 года ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю перарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Літоўскай Рэспублікі. (Код 9073017, загад № 465-у ад 28.10.1996 г.)

15 лістапада 1996 года ў сталічным аддзяленні АТ "Літоўскага ашчаднага банка" адкрыты разліковы рахунак № 407001605 код 60111.

Мэта Таварыства: адраджэнне, захаванне і развіццё Беларушчыны, менавіта роднай мовы, гістарычнай і культурнай спадчыны беларускага народа і рэлігійнай традыцыі.

**КІРАЎНІЦТВА ТАВАРЫСТВА:**
Гіль Юры, старшыня Рады ТБМ
Кепул Яўген, намеснік старшыні
Сябры Рады: Грушэўскі Хведар, Сігле Ніна, Ахрамовіч Ігар, Манчынская Тамара, Папова Еўфрасіння, Пілецкі Андрэй, Дулінец Ю.

**СПІСАЧНЫ СКЛАД ТАВАРЫСТВА – 250 чал.**

Таварыства сваю культурна-асветную і рэлігійную працу праводзіць як на тэрыторыі Літвы, так і на тэрыторыі Беларусі, дзе маюцца першасныя суполкі.

За 10 год свайго існавання Таварыства правяло і праводзіць значную працу ў справе Беларушчыны.

Ва ўсёй справе патрэбна заўважыць стварэнне ў в. Вашунова (Беларусь) Гістарычна-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка", на базе якога сістэматычна праводзяцца розныя культурна-асветныя і рэлігійныя мерапрыемствы, а таксама адкрыццё каталіцкага касцёла ў Вільні, дзе загучала беларуская мова ў малітвах да Бога.

Працу Таварыства беларускай мовы нельга недаацэньваць, калі ўсё гэта прааналізаваць і асэнсаваць.

**НЕКАТОРЫЯ ЭТАПЫ ДЗЕЙНАСЦІ:**
**напярэдадні стварэння ТБМ**

1. Стварэнне і праца беларускага клуба "КУПАЛІНКА" у сценах маладзевага інтэрната Менскага авіятрада (выхаваўца Гіль Ю.): (сярэдзіна 80-х г.г.)
- Тэматычная вечарына, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, артыстамі і г.д. (Міхась Скрыпка, С. Шушкевіч, П. Пруднікаў...)
- Паходы і паездкі па родных мясцінах беларускіх пісьменнікаў.
2. Барацьба за адкрыццё праваслаўнай царквы ў Сенніцы (Менск).
3. Удзел у дзейнасці менскай "ТАЛАКІ".
4. Стварэнне сенніцкай "ГРАМАДЫ" і БНФ Менскага раёна.
5. Выпуск газеты "ГРАМАДА" (Сенніца).
6. Удзел у з'ездзе беларускіх маладзевых суполак, у з'ездзе БНФ (Вільня) і г.д.

**АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ТБМ ВІЛЕНШЧЫНЫ:**

1. Юрыдычная і практычная дапамога вернікам у адкрыцці каталіцкага касцёла ў Варняна (Беларусь).
2. Барацьба за захаванне назову вуліцы Янкі Купалы ў Вільні ("Звярынец" у 1991). Тады вуліцу не ўдалося захаваць, але потым імем Янкі Купалу назвалі адну з вуліц ў Новай Вілейцы.
3. Накіраванне выпускнікоў – беларусаў школ Вільні для навучання ў ВНУ Беларусі.
4. Адкрыццё беларускага факультатыву (класа) у СШ 32 г. Вільні (кіраўнік Матусевіч Марыя).
5. Распаўсюджванне беларускай літаратуры і беларускіх газет.
6. Канферэнцыя па пытаннях адкрыцця беларускай школы ў Вільні.
7. Падрыхтоўка і друкаванне матэрыялаў на беларускую тэматыку ў газетах Літвы.
8. Дабрачынная гуманітарная дапамога дарослым і дзецям Беларусі і Літвы.
9. Удзел у акцыях за вяртанне зямлі віленчукам.
10. Актыўны удзел у выбарчых мерапрыемствах.
11. Выпуск газеты (насценнай) "Голас душы і сэрца".
12. Удзел у 1-м з'ездзе беларусаў свету і з'ездах БНФ, ТБМ.
13. Ушанаванне слынных нашых суайчыннікаў у назовах вуліц у Віленскім раёне: К. Каліноўскага, У. Сыракомлі, А. Міцкевіча, Мірона, Б. Тарашкевіча, Ф. Багушэвіча, Ф. Скарыны.
14.Рэстаўрацыя магілы на Росах (Вільня) У. Сыракомлі.
15. Падрыхтоўка да адкрыцця мемарыяльных дошак – Ф. Багушэвічу у Савічунах (Віленскі раён). – Б. Тарашкевічу ў Лаварышках (Віленскі раён).
16. Стварэнне аддзелу беларускай кніжкі ў Савічунскай бібліятэцы.
17. Праца ў мясцовых органах улады Літвы (Гіль, Матусевіч).
18. Пастаўлены тры крыжы (прыдарожныя) у Вашунове (Беларусь) (адзін дубовы і два жалезныя).
19. Створаны і працуе калектыў мастацкай самадзейнасьці ў Вашунове "ЗАСЦЯНКОЎЦЫ".
20. У в. Вашунова Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці створаны і працуе Гісторыка-этнаграфічны музей "Засцянковая хатка", які з'яўляецца структурным падраздзяленьнем нашага ТБМ (дырэктар музея Ю.Гіль, намеснік Русалоўская Аля).

Пры музеі ёсць бібліятэка "Крынічка", якая налічвае больш за 3 тыс. экз. кніжак.

Цяпер там стварaецца капліца "Святая сям'я", а пры ёй "Крыжовы шлях Ісуса Хрыста".

21. Адкрыты касцёл у Вільні на Зарэччы, дзе кожнаю нядзелю а 10.30 ідзе набажэнства на роднай мове, цешыць яшчэ тым, што яго адкрыццё адбывалася пад сцягам ТБМ, і ёсць нямалая заслуга і наша.

Цяпер ужо стала традыцыяй і будзе светкаванне у гэтым касцёле Дня Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка у Дзень Звеставання і Дня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны Віленскага Краю (бо ў гэты дзень была юрыдычна афармлена ў Мінюсце нашая арганізацыя).

Наша ТБМ жыве, працуе, дзейнічае, кожны год на базе Гістарычна-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка" праводзяцца розныя цікавыя і карысныя для людзей імпрэзы, куды заўсёды едуць з Вільні калектывы мастацкай самадзейнасці ("Баравянка", "Гервяты", "Зожа", "Вярдзяне"). І там гучаць песні, малітвы на беларускай, літоўскай, польскай мовах.

А калі песня ёсць, то будзе жыць наш народ – носьбіт роднай беларускай мовы.

Праўда, не падабаецца манкрутам, наменклатуршчыкам і мафіі Докшыцкага раёна, якія робяць розныя правакацыі, а ў 1997 і 1999 г. яны двойчы рабілі бандыцкія напады на "Заьцянковаю хатку", аб чым паведамлялася неаднаразова ў друку. З дапамогай грамадскасці ўсё ж з цяжкасцю ўдалося ўзбудзіць супраць іх крымінальную справу і яны павінны хутка сесці на лаўку падсудных.

**ДЗЕЙНАСЦЬ ТБМ ВІЛЕНШЧЫНЫ Ў 1999 - 2001 ГАДАХ**

1. Нягледзячы на цяжкасці ТБМ жыве, працуе, дзейнічае.
2. Касцёл св. Барталамея ў Вільні з'яўляецца моцным асяродкам Беларушчыны, дзе ТБМ выкарыстоўвае ўсе магчымасці і праводзіць свае мерапрыемствы. Там гучыць родная мова.
- 25 сакавіка (я аб гэтым ужо паведамляў) была праведзена змястоўная імпрэза з нагоды Дня Волі.
- 22 красавіка ТБМ праводзіла чарговае мерапрыемства "ГУКАННЕ ВЯСНЫ" (Дзень Юр'я). Пасля Святой імшы ў касцёле з нагоды гэтага свята сябры ТБМ зрабілі працяг на рачулцы Віленка. Гучалі веснавыя песні на беларускай і літоўскай мовах.
3. Працягваецца збор беларускіх кніжак для Савічунскай бібліятэкі (на радзіме Ф. Багушэвіча). Партрэт паэта ўжо выканы.

Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі, праўда, зацягваецца, але гэта не па нашай віне.

4. Ідзе падрыхтоўка і да адкрыцця Крыжовага Шляху у в. Вашунова Докшыцкага раёна.

Праўда, адтуль прыходзяць несуцяшальныя звесткі. Мясцовыя ўлады і мафія рыхтуюць розныя правакацыі і робяць пагрозы.

Хаця супраць удзельнікаў бандыцкага нападу на "Засцянковаю хатку" узбуджана пад націскам грамадскасці крымінальная справа, але ўсё зацягваецца, бо докшыцкія ўлады не зацікаўлены ў гэтым, бо яны самі арганізавалі гэты напад і цяпер выгароджваюць сваіх выканаўцаў. Але трэба спадзявацца, што справа ў рэшце рэшт будзе даведзена да канца.

5. Наша Таварыства будзе мець у хуткім часе сваю старонку ў Інтэрнэце.
6. Высылаю на Ваш разгляд тэкст верша-песні сяброў нашага Таварыства. На мае словы музыку будзе складаць Яўген Кепул (намеснік старшыні ТБМ).

**ПЕСНЯ – ГІМН**

**сяброў Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны Віленскага Краю (да 10-годдзя Таварыства) 1991 – 2001 г.г.**

Словы – Гіль Ю.
Музыка – Кепул Я.

Патрэбна нам за рукі ўзяцца,
За рукі ўзяцца.
На бой за волю нам падняцца,
Нам падняцца.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

Дакажам, мы народ нясхільны,
Народ нясхільны.
Памогуць продкі нам з магілы,
Нам з магілы.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2разы)*
На бой, на бой, на бой...

За мову, сцяг і герб "Пагоню",
Герб "Пагоню"
Усе сядайма мы на коней,
Мы на коней.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

У белай пене іх пагонім,
Іх пагонім,
Усіх пачвараў мы разгонім,
Мы разгонім.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

Пакрые наш змагарны шлях,
Змагарны шлях,
Наш бел-чырвона-белы сцяг,
Спрадвечны сцяг.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

Мы Беларусь сваю святую,
Сваю святую,
Зямлю бацькоўскую ўратуем,
Мы ўратуем.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

Патрэбна нам за рукі ўзяцца,
За рукі ўзяцца.
На бой за волю нам падняцца,
Нам падняцца.
Мы выйдзем шчыльнай грамадой *(2 разы)*
На бой, на бой, на бой...

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
МЫ ПЕРАМОЖАМ! З НАМІ БОГ!

Наш адрас: г. Вільня, вул. Архітэкту, 23-79 Літва, ТБМ імя Францішка Скарыны Віленскага Краю.

*Старшыня Рады ТБМ*
*імя Ф. Скарыны Віленскага Краю*
*Юры Гіль*

20 красавіка 2001 г. г. Вільня.



№ 19 (507) 9 ТРАЎНЯ 2001 г. наша СЛОВА

# Да “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі”

## Асноўныя прычыны звужэння сферы ўжытку сучаснай беларускай мовы

На сучасным этапе ў Беларусі існуюць дзве дзяржаўныя мовы: беларуская і руская.

Сучасная беларуская мова характарызуецца існаваннем 3-х яе рознавіднасцяў: літаратурнай мовы, дыялектнай мовы і змешанай мовы на беларускай аснове. Калі параўноўваць сферы ўжытку сучаснай беларускай мовы са сферамі ўжытку рускай мовы, то нават на першы погляд заўважаецца адсутнасць моўнай гарманічнасці ў гэтым аспекце. Таму пры выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў 21-м стагоддзі неабходна зыходзіць з сённяшніх рэалій.

Так, паўсюль, асабліва ў гарадах, і ў візуальным афармленні, і ў зносінах, і ў СМІ, і ў адукацыі, і ў друку пануе руская мова. Асабліва заўважныя гэтыя перакосы пры аналізе статыстычных дадзеных апошняга 1999 г. перапісу насельніцтва. Так, у краіне жывуць больш за 8 мільёнаў беларусаў, якіх можна назваць тытульнай нацыяй, 73,7% грамадзян Беларусі і 85,2% беларусаў назвалі роднай мовай беларускую, 36,7% жыхароў краіны і 41,4% беларусаў штодня дома размаўляюць па-беларуску, больш за 20% беларусаў не валодаюць рускай мовай. Вядома, узнікае пытанне: чаму пры такіх высокіх статыстычных паказчыках сфера ўжывання беларускай мовы ў краіне даволі абмежаваная. Так, толькі ў сферы адукацыі лічбы паказваюць незгарманізаванасць моўнай прасторы. У гэтым навучальным годзе ў краіне на беларускай мове займаецца 29% вучняў, а на рускай -–70,9%. Чаму такія моўныя перакосы? І гэта тым больш здзіўляе, што сёння ў свеце чалавецтва імкнецца пазбягаць канфлікту, у тым ліку і на моўнай глебе. На дасягненне такой мэты скіраваная Усеагульная дэкларацыя лінгвістычных правоў, прынятая ў Барселоне ў 1996 г. У дакуменце адзначаецца, што Дэкларацыя неабходная “дзеля выпраўлення моўных пераносаў, забяспячэння павагі да ўсіх моваў і іх поўнага росквіту, а таксама дзеля ўсталявання прынцыпаў справядлівага і бесстаронняга міру паміж мовамі ўсёй планеты”. І сёння Таварыства беларускай мовы, узяўшыся за выпрацоўку такога надзвычай важнага і надзённага дакумента, як Стратэгія, дзейнічае ў рамках сусветнага клопату пра гармонію моўных стасункаў. На добры лад такую ініцыятыву павінна была праявіць нашая дзяржава, таму я лічу, што сёння ёсць усе падставы гаварыць пра неабходнасць задзейнічання дзяржаўнага рэсурсу.

Можна вылучыць шэраг прычынаў звужэння сферы ўжытку беларускай мовы, і адной з іх з’яўляецца нераўнамернае развіццё беларускай мовы на розных этапах свайго існавання. Можна выдзеліць восем перыядаў у знешняй гісторыі беларускай мовы, на працягу якіх мова зведала ўзлёт і заняпад, што не паспрыяла распаўсюджванню яе ў розных сферах.

1-ы перыяд – XIII – XIУ стст. Нараджэнне і развіццё старабеларускай (рускай) мовы.

2-гі перыяд – ХУ – першая палова ХУII стст. “Залаты век” мовы. Статусы: дзяржаўная, міжнацыянальная, міжнародная мова.

3-ці перыяд – другая палова ХУII ст. – канец ХУIII ст. Заняпад, паланізацыя мовы. Статус: нацыянальная мова.

4-ты перыяд – канец ХУIII ст. – пачатак ХХ ст. Заняпад, русіфікацыя. Нараджэнне новай літаратурнай мовы. Статус: дыялект рускай мовы.

5-ты перыяд – пачатак ХХ ст. – 20-я гады ХХ ст. Адраджэнне мовы, беларусізацыя. Статус: дзяржаўная мова.

6-ты – 30 – 80-ыя гады. Заняпад, русіфікацыя. Статус: нацыянальная мова.

7-ы – 1990 – 1995 гг. Адраджэнне мовы, беларусізацыя. Статус: дзяржаўная мова.

8-ы – 1995 г. – па ц.ч. Прыпыненне беларусізацыі. Статус: адна з дзяржаўных моў.

Пры разглядзе гістарычнага фактару ўплыву на развіццё мовы можна ўбачыць, што за апошнія 200 гадоў беларуская мова мела статус дзяржаўнай толькі на працягу прыкладна 20 гадоў, а ў 19 стагоддзі адзначаецца поўнае знікненне літаратурнай старабеларускай мовы, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім. Дзякуючы таму, што гутарковая беларуская мова не здавала сваіх пазіцый у сельскай мясцовасці, удалося адрадзіць новую літаратурную мову на аснове народнай.

Аднак меры русіфікацыі ў 19 ст. настолькі звузілі сферу ўжытку літаратурнай мовы, што ў Беларусі засталося некалькі сотняў чалавек, якія маглі чытаць і пісаць па-беларуску. Асабліва “плён” далі такія меры, як русіфікацыя адукацыйнай прасторы. Характар падручнікаў па гісторыі, геаграфіі і інш. Расійскай імперыі быў настолькі небеларускі, што, напрыклад, у падручніку па геаграфіі А.Баранава і Н.Гарэлава 1912 г. беларуса ўвогуле не пазнаць, такі ён непрыглядны. “Белорусы невысокаго роста, имеютъ круглое одутловатое лицо, ... редкие, особенно на бороде, волосы... Пища белоруса очень скудная; она состоитъ преимущественно изъ хлеба с отрубями, картофеля и другихъ овощей... Избы большей частью курныя, крытыя соломой или болотным камышем... По характеру белорус смирен и смотритъ забитым... Ремёсел никаких белорусы не знаютъ”. Калі ж улічыць такія меры русіфікацыі беларускай мовы ў Расійскай імперыі, як забарону мовы для справаводства і кнігадрукавання, вялікія рэформы ў адукацыі: 50% дабаўка да заробку, ільготы ў аплаце за кватэру рускім выкладчыкам, перавод адукацыі поўнасцю на рускую мову (некалькі “тайных” беларускамоўных школ працавалі ва ўмовах штрафаў (300 руб.) і пакаранняў (3 месяцы турмы), поўная ліквідацыя вышэйшых навучальных устаноў; стварэнне рускіх бібліятэк з поўным наборам літаратуры, ліквідацыя Уніяцкай царквы (1839 г.), перасяленне ў Беларусь рускіх дваран і казённых сялян, дыслакацыя на Беларусі рускіх вайскоўцаў (да 200 тыс.), наплыў расійскага капіталу – то гэтая ўсе сферы давялі беларусаў да знішчальнай асіміляцыі: у пачатку XIX ст. у Беларусі налічвалася 62,4% беларусаў, у 1859 г. – 55%, у 1917 г. – 44,8%. “...Руская мова пачала хутка распаўсюджвацца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця: адміністрацыйна-палітычнай, сацыяльна-эканамічнай, культурна-асветніцкай і адукацыйнай, рэлігійна-культавай і бытавой. За паўстагоддзе інтэнсіўнага абрусення ў беларускім грамадстве склалася грамадская думка, накіраваная супраць выкарыстання роднай мовы”. “На таго, хто выступаў са сваім родным словам, глядзелі, як на дзівака, з якога можна было толькі пасмяяцца” (Я.Колас). “Адгукнуцца па-беларуску азначала тое ж самае, што голым паказацца на вуліцы”, – пісаў рэдактар “Нашай нівы” А. Уласаў.

Такім чынам, трэба адзначыць, што ўжо ў XIX ст. пачыналі выспяваць асноўныя прычыны звужэння ўсіх сфер ужытку беларускай мовы: гістарычныя, палітычныя, адукацыйныя, сацыяльна-псіхалагічныя, эканамічныя і інш.

У савецкі перыяд русіфікацыі мовы (30-80-я гады) гэтыя прычыны яшчэ больш укараняліся. Калі ў XIX ст. беларусы не мелі сваёй дзяржавы, то ў 20 ст. можна лічыць БССР дзяржаўным утварэннем з адноснай самастойнасцю. Якім жа было дзяржаўнае рэгуляванне моўных працэсаў у гэты час?

Трэба адзначыць, што дзяржава ніяк не рэгулявала пашырэнне сфераў ужытку мовы тытульнай нацыі. Наадварот, шляхам усталявання заканадаўчых актаў свядома звужвала гэтыя сферы. Так, пасля рэформы правапісу 1933 года сфера ўжытку “тарашкевіцы” звузілася так, што ў канцы 80-х гадоў можна было гаварыць пра існаванне яе толькі па-за межамі БССР, у замежных выданнях. Пастанова СНК і ЦК ВКП(б) “Аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік і абласцей” (1938 г.) пачынае мэтанакіраванае выцясненне мовы са сферы адукацыі. У 1958 г. выдадзена Палажэнне аб вывучэнні другой мовы па жаданні вучняў і бацькоў. На аснове гэтага палажэння пачаўся адлік “эпідэміі вызвалення ад вывучэння беларускай мовы ў школах”. Да канца 70-х гадоў у Менску было вызвалена 90% школьнікаў. Катастрафічна скарачаецца колькасць беларускамоўных школ. Да канца 80-х гадоў у гарадах і мястэчках Беларусі не засталося ні адной беларускамоўнай школы.

Адраджэнне 1990 – 1995 гадоў пашырыла адукацыйную сферу ўжытку беларускай мовы, аднак ужо ў 1995 годзе пасля рэферэндуму колькасць беларускамоўных школ імкліва скарачаецца, а першая беларускамоўная ВНУ так і не адкрылася. У верасні 1994 г., які лічыцца “пікам” беларусізацыі, у Менску было 58% першакласнікаў, што вучыліся па-беларуску, у верасні 1996 – 32%, 1997 г. – 17%, 1999 – 4,3%. Толькі ў верасні 2000 г. гэты “абвал” спыніўся – 4,3% першакласнікаў у Менску селі за парты. Такая статыстыка ёсць прамым паказчыкам выніковасці дзяржаўнага рэгулявання моўнымі працэсамі ў адукацыі. Тым больш здзіўляе абсалютная падобнасць вынікаў працы дзяржаўнага рэсурсу ў БССР і Рэспубліцы Беларусь. Сутнасць дзяржаў розныя, а вынікі – аднолькавыя. Калі ж улічыць, што Закон аб адукацыі вось ужо на працягу пяці гадоў абсалютна не выконваецца, а замест праекту новага Закона, які зараз абмяркоўваецца, выклікае, мякка кажучы, недаўменне, асабліва ў 5-м артыкуле, што дае права грамадзянам на выбар мовы “в пределах возможностей, предоставленных системой образования”, то становіцца цалкам зразумелым, чаму за выпрацоўку Стратэгіі ўзялася грамадская арганізацыя.

У выдавецкай сферы, як аспекце дзяржаўнага рэгулявання, Беларусь таксама мае не станоўчую спадчыну. Так, за ўсё XIX ст. было выдадзена толькі 75 кніг на беларускай мове, у той час як за перыяд з 1901 па 1917 – 247. Праўда, у канцы 20-х гадоў друк стаў амаль поўнасцю беларускамоўным – 90% кніг выходзяць па-беларуску. Аднак у ХХ ст. “няўхільна памяншаліся наклады беларускамоўных выданняў: ад 68,5% у 1925 г. да 7% у 1987 г. Праўда, у першыя гады апошняга дзесяцігоддзя сітуацыя палепшылася, але ў 1997 г. агульны наклад стаў 5,5%”. І сёння, на жаль, мы знаходзімся ў коле рускамоўнага друку.

Калі прааналізаваць наступную сферу ўжытку мовы, якая таксама знаходзіцца пад дзяржаўным кантролем, - радыё і тэлебачанне -, то і ў гэтай сферы вынікі дзяржаўнага рэгулявання падобныя, як і ва ўсіх астатніх. Так, у кастрычніку 1994 г. па першай праграме беларускага радыё” гучала 31% беларускамоўных песень, 52% расійскамоўных, у сакавіку 1996 – адпаведна 28% і 54%; у ліпені 1998 – 22,8% і 67%. У апошнія гады Таварыства беларускай мовы неаднаразова звярталася ў Дзяржтэлерадыёкампанію з лістамі аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў гэтай сферы, аднак сёння, я мяркую, сітуацыя яшчэ горшая.

Калі ўлічыць, што прыняты ў 1990 г. Закон аб мовах быў у 1998 г. зменены, і змены прывялі да яшчэ большага звужэння сфераў беларускай мовы, а Закон аб адукацыі вось ужо 6 гадоў як не выконваецца і толькі цяпер разглядаецца праект новага Закона, то трэба сказаць, што дзяржава паспрыяла звужэнню сфераў ужытку мовы тытульнай нацыі.

Сфера сацыяльнага бытавання беларускай мовы таксама значна звузілася. Бясспрэчна, і гісторыя развіцця мовы, і дзяржаўныя адносіны паўплывалі на тое, што сёння беларусы не ведаюць мовы і не могуць вольна валодаць ёю ў зносінах. Прычыну гэтаму трэба шукаць і ў адсутнасці асяродку мовы, а таксама ў невялікай колькасці гадзінаў, адведзеных на вывучэнне мовы ў школах. Так, у 1999 г. у нулявым класе гадзінаў на беларускую мову ўвогуле няма, рускай жа мовы – 6 гадзінаў у тыдзень, у 1-3 кл. – беларуская мова 3 гадзіны, рускай – 7. У цэлым жа на вывучэнне рускай мовы з 0 па 11 кл. адведзена 45 гадзін на тыдзень, а беларускай – 24. У пачатку ж 90-х гадоў была ўраўняная колькасць гадзінаў на вывучэнне рускай і беларускай моў.

Да прычыны няведання мовы трэба дадаць і псіхалагічную, калі носьбіт мовы саромеецца быць “белай варонай”, не хоча выдзяляцца з агульнай рускамоўнай масы. Можна адзначыць таксама боязь быць носьбітам беларускай мовы, прычыну якой трэба шукаць у 30-40 гадах, калі ў выніку рэпрэсій загінулі многія тысячы грамадскіх дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, работнікаў культуры і асветы. Не малую ролю ў выбары мовы іграюць і падзеі апошніх гадоў, калі падчас вулічных акцый збівалі і арыштоўвалі зусім выпадковых людзей толькі за тое, што яны гаварылі па-беларуску. Пра такі асабісты досвед гавораць журналіст Вітаўт Мартыненка, спявак Віктар Скарабагатаў і многія іншыя. А калі ўлічыць нацыянальны характар беларусаў, іх пэўны прагматызм, то тлумачыць у кожнай краме прадаўцу, што такое печыва, сочыва, марозіва, разынкі і алей не пад сілу масаваму беларусу, паніжэнне нацыянальнай свядомасці якога фіксавалі ўсе вынікі перапісу за апошняе стагоддзе. На жаль, сёння беларуская мова не тое што не становіцца “мовай хлеба”, а наадварот, адцягвае ад гэтага прыцягальнага для беларусаў стратэгічнага аб’екту. Але, як я мяркую, тым і вабіць моладзь, у якой уласцівае імкненне да незвычайнага і, часам, небяспечнага. Таму і трэба пры выпрацоўцы Стратэгіі ўлічваць моладзевы фактар. Ды і вынікі перапісу 1999 года абнадзейваюць. Наглядаецца ў народа, асабліва ў моладзі, прабуджэнне цікавасці да гісторыі, мовы, краіны, растуць шэрагі грамадскіх арганізацый, зацікаўленых моўнымі пытаннямі, усведамляюцца і абараняюцца моўныя правы.

Сёння ў шэрагах ТБМ налічваецца больш за 9 тысяч жыхароў Беларусі і замежжа, вядзецца актыўны прыём у Таварыства на штотыднёвых паседжаннях Сакратарыяту, павялічваецца цікавасць да арганізацыі з боку дзяржаўных структураў Беларусі і іншых краінаў. Мяркую, што Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі паспрыяе вырашэнню моўных праблем у Беларусі і замацуе пазіцыі беларускай мовы на лінгвістычнай карце свету.

*Людміла Дзіцэвіч, намеснік старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны.*





# Індаеўрапеец

Дар'ян Шахаб – беларус-іранец. Ведае многія мовы, з татам гаворыць па-персідску, але любіць таксама і беларускую – мову мамы і бабулі. Хлопчык прамаўляе беларускім словам у хаце, з цікавасцю вывучае мову ў школе, а цяпер спрабуе пісаць.



Вершык па заказе
Напісаў я, дзеці
Пра самых лепшых
Жанчын на свеце.

Іх аднолькава люблю я,
Бо не ведаю, як быць,
Ці ж любоў да маіх мілых
Можна неяк падзяліць.

Мама, мамачка, матуля
Як жа хораша гучыць!
А старэйшая – бабуля,
Без яе мне не пражыць.

Хто ж за добрыя адзнакі
Будзе прэміі дарыць?
А за хатнія работы
Дзякуй, унучак, гаварыць.

Толькі б мне не сапсавацца
Нічым іх не засмуціць,
Тады мама і бабуля
Ў спакої будуць жыць.

**СЯСТРА**

Колькі я цябе чакаў!
Бацьку, маці "даставаў".
І зайздросціў я сябрам,
Іх сястрычкам і братам.

І нарэшце вось яна...
Дастае мяне штодня.
Кніжкі, сшыткі адбірае,
Усё з партфеля вытрасае.

Цацкі ў хаце раскідае...
Да мяне так прыстае,
Што нясуся я наўцёк
Ці хаваюся ў куток.

Не сястрычка – чарцяня.
Дастае мяне штодня.
Але я люблю яе,
Хоць жывецца цяжка мне.

*Дар'ян Шахаб, 8 гадоў,*
*вучань 3а класа СШ № 140.*

# Дзякуючы настаўніцы

Раней я неяк абыякава адносілася да ўрокаў па беларускай мове і літаратуры. Настаўнікі без асаблівага запалу выкладалі гэты прадмет і не змаглі ў нас запаліць цікавасць да роднай мовы. Ды і лічылася, што прадмет гэты не прэстыжны – дзе і як можна прымяніць у практычным жыцці сёння родную мову?

А вось калі ў наш клас паўтара гады назад прыйшла Валянціна Міхайлаўна Бандарэнка, то ўсё нечакана памянялася. Неяк непрыкметна яна змагла адкрыць перад намі таямніцы і прыгожасць роднага слова, творчасць Максіма Багдановіча і Яна Баршчэўскага, Якуба Коласа і Янкі Купалы... Калі яна дэкламавала вершы слынных паэтаў Беларусі, то перада мною ўвачавідкі паўставалі пейзажы і вобразы роднага краю – і пах кветак у лузе, і шэпат асакі ў затоцы, і спеў птушак у лесе...

Валянціна Міхайлаўна – педагог-псіхолаг. Можа пагэтаму ёй лёгка знаходзіць сцежкі да сэрцаў вучняў, каб абуджаць у іх любоў да свайго роднага краю, да мовы і культуры. Кожны ўрок, праведзены ёю, гэта як зыркая старонка адкрыцця невядомага, як здзіўленне, як радасць. Таму мы адчулі сябе грамадзянамі сваёй незалежнай краіны, калі прынялі ўдзел у літаратурных вечарах, прысвечаных творчасці Аркадзя Куляшова, Янкі Купалы і іншых вядомых творцаў, імёны якіх будуць радаваць не адно пакаленне.

У сувязі з гэтым я пачала прыслухоўвацца да голасу дыктараў радыё і тэлебачання. Услухоўвалася ў дыкцыю, сама спрабавала дэкламаваць. І мяне радавала, калі Валянціна Міхайлаўна ставіла мне па прадмеце добрыя адзнакі і гаварыла, што ў мяне добрае вымаўленне... Параіла ўдзельнічаць у творчых конкурсах.

Я рыхтавалася да ўдзелу ў "Зорнай ростані", вечарамі дэкламавала, чытала ўслых, расказвала. А калі пачаўся той конкурс, то нечакана захварэла.

Але я не адчайваюся. Усё яшчэ наперадзе. Наперадзе і тое, што я мару быць дыктарам. А для гэтага хачу паступіць у Гомельскі дзяржаўны універсітэт – там ёсць такое аддзяленне.

Маю задумку падтрымлівае мая настаўніца Валянціна Міхайлаўна.

Дзякуй ёй, што яна абудзіла ўва мне светлыя пачуцці, любоў да роднага, нацыянальнага. Я пастараюся быць карыснай сваёй Маці-Радзіме, і заўсёды памятаць, што толькі ў роднай краіне можна здабыць сваё шчасце.

*Марына Горбач,*
*вучаніца 11 "б" класа СШ-3*
*г. Светлагорска.*

## Дванаццаць

Студзіць Студзень дрэвы, хаты...
Ў Лютым – злыя маразы...
Сакавік цяплом багаты,
Красавік сеў на вазы.
Кожны раз ідзе сустрэча,
Іх вітае птушак крык...
Травень кветкамі расквечан,
Чэрвень з сонейкам прывык.
Ліпень мёдам дзетак песціць,
Жнівень спеліць хлеба дух...
Пазней Верасень абвесціць,
Што Кастрычнік – яго друг...
Лістапад пажоўклым лісцем
Стаў падобны да агню, -
Мяне Снежань просіць выйсці,
Каб праклала ў лес лыжню.

*Марына Горбач,*
*вучаніца 11 "б" класа СШ-3*
*г. Светлагорска.*

# Мая сям'я і я

**(школьнае сачыненне)**

Сяджу, думаю. А словы не кладуцца на паперу. Іншыя думкі ідуць у галаву, іншыя вобразы. Сям'я – слова мнагазначнае. І я выбіраю тое яго значэнне, якое мне цяпер бліжэй за іншыя. Мая сям'я – мой беларускі народ. І я – маленькая часцінка гэтай вялікай сям'і. Я лічу, што гэта вялікі гонар – належыць да такой сям'і.

Я заўсёды захаплялася высакароднасцю беларускага характару ў спалучэнні са сціпласцю, велікадушнасцю, рыцарствам душы – спагадай да чалавека, разуменнем яго патрэб, перажываннем не свайго болю. Рыцарствам напоўнена ўся наша гісторыя. Успомнім дзіду Альгерда пад маскоўскай сцяной. На пакаянне – была літасць, палонных вызвалялі, людзей не прадавалі. Беларус унутрана паважае жыццё і правы чалавека быць іншым.

Гісторыя нашай Радзімы багатая на падзеі і імёны. У Матулі-Беларусі шмат таленавітых сыноў і дачок. Панараму духоўнага жыцця нельга ўявіць без ігумені Ефрасінні Полацкай, якая ў юныя гады пастрыглася ў манашкі і стала выдатнай асветніцай, а пасля была прызнана нябеснай апякункай Беларусі. На залатую пару старажытнай беларускай культуры прыпадае дзейнасць выдатных сыноў нашай мінуўшчыны Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Льва Сапегі. Жывуць у свядомасці беларусаў, не паміраюць праз многія стагоддзі такія постаці, як Усяслаў Чарадзей, Кірыла Тураўскі, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Сімяон Полацкі, Кастусь Каліноўскі. Спіс гэты можна доўжыць і доўжыць, але галоўным застаецца адно: усе яны былі шчырымі дзецьмі --патрыётамі сваёй беларускай Айчыны.

Самыя запаветныя думы і мары беларускага народа выказалі ў сваіх творах Ф. Багушэвіч, Цётка, Я. Купала, Я. Колас. Крыштальна-агністыя пацеркі іх вершаў можна нанізаць на нітку памяці, найярчэй будуць ззяць на ёй радкі-заклікі да беларусаў "людзьмі звацца". Пра беларусаў, іх лёс, імкненне і спадзяванні напісана многа. Цэнтральным героем большасці твораў М. Багдановіча і Ул. Караткевіча з'яўляецца беларус. На першы погляд – пакорлівы, мяккі, забіты, бязвольны "мужык". На самай справе гэта мужны, жыццястойкі, свабодалюбівы чалавек, загартаваны, як зазначае Ул. Караткевіч, "у пераможных войнах і бясконцых паўстаннях супраць прыгнятальнікаў".

Такія рысы характару беларусаў, як працавітасць, гаспадарлівасць, бязмерная любоў і павага да зямлі яскрава ўвасобілася ў вобразе Міхала з "Новай зямлі" Якуба Коласа. Герой твора маліўся на зямлю, абагаўляў яе, няньчыў і песціў, нібы дзіця. З любоўю да зямлі непасрэдным чынам звязана і пачуццё любові да Бацькаўшчыны, Радзімы наогул.

Беларускі народ, нягледзячы на складаную, часам трагічную гісторыю, не страціў сваіх лепшых рысаў нацыянальнага характару, захаваў павагу да старажытных звычаяў, абрадаў, нацыянальных традыцый.

Сустракаючы новае тысячагоддзе, хочацца смела глядзець у будучыню, верыць у яе. Але ці магчыма гэта, калі мы пачалі забываць сваю родную мову? Мне становіцца жудасна ад думкі, ці зможам мы звацца адзіная сям'ёй, калі не будзе мовы нашых продкаў, і кім будуць звацца тады нашы нашчадкі? Горкая рэальнасць: ёсць сярод нас тыя, што цураюцца бацькоўскай мовы, адракаюцца ад яе. А гэта ж вялікая пагроза для беларускай сям'і-нацыі. Калі памірае мова, памірае, перш за ўсё, культура. А гэта азначае, што чалавек страчвае духоўнае існаванне, памірае яго душа. І зноў жа, калі не будзе мовы, знікае дзяржаўны статус Беларусі. Мы, беларусы, увогуле знікнем з твару Зямлі. Ці патрэбна нам гэта? Вядома ж не! А каб не здарылася так, кожны з нас павінен задумацца аб тым, што ў нас ёсць абавязак – захаваць і пакінуць сваім нашчадкам тое, што мы атрымалі ад продкаў: не разбураную зямлю, цудоўны свет, у якім яны маглі б жыць і гадаваць сваіх дзяцей. Кожны павінен задумацца аб будучыні. А будучыня – гэта адбітак нашых сённяшніх спраў, учынкаў, імкненняў, жаданняў, думак. І памятайце, паважаныя сябры, мае родныя, мая беларуская сям'я, што будучае пачынаецца сёння, і калі ў яго нельга заўзірнуць, то можна паўплываць сваімі ўчынкамі і справамі. Узгадаем словы Кастуся Каліноўскага: "Возьмемся за рукі, дзецюкі, і дзяржэмся разам!"

*Кацярына Кавалёнак, сябар гуртка "Юны журналіст" СШ №1 г. п. Бешанковічы.*

# Беларуская мова непрыдатная для хлусні

У вялікай пашане я схіляю галаву перад памяццю Янкі Купалы, які сваім розумам сягнуў на стагоддзе наперад і ўбачыў наш сённяшні дзень. У сваёй драме "Раскіданае гняздо" ён гаворыць пра цмока Упыра і пра яго звычкі есці жывых людзей. Там жа, у драме, ён заклікае ісці на Вялікі сход па Бацькаўшчыну і выганяць страшнага цмока. Задача, узнятая Купалам, не страціла сваёй надзённасці і па сягоння. Але ці гатовыя мы на такую справу? Бо ісці трэба смела, не азіраючыся. А калі аглянешся – прапаў.

Сягоннячні дзень стаіць на скрыжалях многіх значымых праблем, якія тэрмінова трэба вырашаць. Самай галоўнай з іх – лёс Бацькаўшчыны. Многія могуць спытаць: што такое Бацькаўшчына? Адказ: гэта ўсё тое, што вакол нас, што ў нас саміх. Гэта неба і сонца над галавой, гэта дуга вясёлкі на аддаленні, гэта міг бліскавіцы. Гэта палеткі збажыны, між якой – дарога, што вядзе да роднага парога, да магіл родных – бацькоў і дзядоў. Гэта людзі, знаёмыя і незнаёмыя, на плячах якіх трымаецца жыццё. Гэта сама хата, адкуль пайшоў у вялікі свет. А ў хаце – усё знаёмае да драбніц: лыжкі, міскі, калыска падвешаная пад столь, гэта стол, на якім на покуце пад абразамі ляжыць хлеб, накрыты белым ручніком. І гэта – родная мова, першым словам якой – лагоднае і пяшчотнае "мама".

Усё нам трэба бараніць ад злыдняў, каб яны не зганьбавалі, не знішчылі яе. І барацьба такая толькі пад сілу мужным, імя якім беларусы. Многа ў нас ёсць такіх, якія лічаць наш край сваёй радзімай і лічаць за гонар жыць на нашай зямлі, але беларусамі не называюцца і не назавуць іх. Для прыкладу можна ўзяць падзеі недалёкай мінуўшчыны. Так з 300 дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12 склікання беларусаў аказалася толькі 18, якія смела супрацьпаставілі сябе цёмным сілам зла, за лёс Бацькаўшчыны, родную мову леглі пад пратэктары амапаўскіх ботаў.

У Беларусі нават многія кітайцы размаўляюць па-беларуску, а вось бандыты і зладзеі па-беларуску не размаўляюць.

Сёння на самым высокім узроўні сцвярджаецца, што на беларускай мове нельга шырока выразіць свае думкі. Гэта значыць, ім нельга. Спрадвеку на беларускай мове нельга было хлусіць, бо для хлусні яна не прыдатная. Для тых, хто гаворыць праўду беларуская мова цалкам дастатковая і паўнавартасная.

За сваю гісторыю беларуская мова чатырыкрацць была расстраляная, а яна жыве, перажыўшы сваіх забойцаў, уваскрэсла. Як казаў Г. Бураўкін:

*Перажыла наша родная мова*
*І Бенкендорфа, і Мураўёва...*
*Тых,*
*Што з мякінай у галаве*
*Перажыве!*

*Мікола Грышан.*





# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЦЯГ БЕЛАРУСАЎ

Вядома, што ўжо сярэднявечныя дзяржавы Еўропы мелі свае дзяржаўныя сімвалы. Старажытныя гербы маюць, напрыклад, Чэхія, Германія, Англія і многія іншыя краіны. Такім жа старажытным гербам з'яўляецца і нацыянальны беларускі герб "Пагоня" – выява Святога Георгія ў выглядзе коннага рыцара – які мае глыбокі сэнс: белы (срэбны) колер вершніка і яго каня сімвалізуе чысціню хрысціянства і яго вернасць запаветам Хрыста, меч – сродак барацьбы за веру, чырвоны колер – поле, залітае крывёю ворагаў хрысціянства. Прычым, такія колеры выкарыстоўваліся ў сімволіцы славян здаўна, бо яшчэ аўтар "Слова аб паходзе Ігаравым" упамінае белыя харугвы і чырвоныя шчыты славянскіх вояў.



Дзяржаўная харугва Вялікага Княства Літоўскага

Першапачаткова гербы маляваліся на шчытах вояў-рыцараў, затым выявы гербаў з'явіліся на сцягах, ці харугвах вайсковых адзінак. Цікавыя звесткі паведамляе Ян Длугаш, аўтар хронікі аб Грунвальдскай бітве. Паводле яго хронікі, войска Вялікага княства Літоўска-Рускага складалі 40 вайсковых адзінак – харугваў, у складзе якіх былі літоўцы, русіны (усходнія славяне – жыхары Вялікага княства), жмудзіны і татары. Амаль усе харугвы мелі сцягі з падобнымі выявамі "Пагоні", толькі 10 з іх мелі сцягі з выявай "Слупоў" – радавога знака Вітаўта. Усе сцягі-харугвы беларускіх ваяводстваў і паветаў мелі на адным баку выяву "Пагоні", на другім – надпіс, або яку-небудзь выяву. Сцягі ваяводстваў адрозніваліся колерам палотнаў, але большасць было чырвонага колеру, дакладней, розных адценняў чырвонага. Паводле "Літоўскай метрыкі", сцяг Віленскага ваяводства быў чырвоным, Валынскага – "брунатным", Полацкага – "сікаражым", Навагародскага – "пелістым", Менскага – "гваздзіковым". Але ў кнізе А. Гваніні, складзенай у 1578 годзе, усе гэтыя сцягі апісаны як чырвоныя. Апрача вышэйзгаданых ваяводстваў, Жамойцкае староства мела белы сцяг, Віцебскае і Кіеўскае ваяводствы – зялёныя сцягі, але розных адценняў, Берасцейскае і Троцкае – блакітныя, Мсціслаўскае – жоўтыя або, паводле Гваніні, аранжавы. Усе сцягі ваяводстваў мелі два рагі і адрозніваліся, акрамя колеру палатна, колерам вершніка і каня. Існаваў таксама і Дзяржаўны сцяг – Дзяржаўная харугва Вялікага княства, якая ўяўляла сабой чырвонае прамавугольнае палатно "шасцідзесяці локцяў" з чатырма рагамі: на адным баку палатна была выява Святога Юр'я – Дзяржаўнага герба "Пагоня", на другім – выява Дзевы Марыі з дзіцем Ісусам на руках на фоне Сонца. Меў уласны сцяг і Найвышэйшы гетман княства: блакітнае палатно з выявай "Пагоні" на адным баку і Святога Станіслава – на другім. Усе сцягі былі багата расшытыя раслінным арнаментам (у XVI стагоддзі), або жывёльным (у XVII стагоддзі).



Сцяг Святога Юрыя

Выраб падобных харугваў быў доўгай і дарагой справай, акрамя таго, яны часта пашкоджваліся пад час бітваў, таму пачалі з'яўляцца простыя сцягі, якія складаліся з каляровых палосаў адпаведных колераў герба, або з простых геаметрычных фігур на аднакаляровай палатніне. Так узніклі нацыянальныя і дзяржаўныя сцягі многіх краін. Напрыклад, гербам з выявамі хрысціянскіх святых адпавядалі сцягі з крыжамі розных форм і колераў. Напрыклад, на белым палатне нацыянальнага сцягу Англіі чырвоны георгіеўскі крыж, на блакітнай палатніне нацыянальнага сцягу Грэцыі белы георгіеўскі крыж, на блакітнай палатніне нацыянальнага сцягу Шатландыі белы крыж Святога Андрэя, на сцягу Вайскова-Марскога Флоту Расеі на белай палотніне сіні крыж Святога Андрэя, а на зялёным сцягу памежных войскаў Рэспублікі Беларусь чырвоны крыж Святога Андрэя (загад Старшыні Дзяржаўнага камітэту памежных войскаў Рэспублікі Беларусь ад 20. 03. 2000 г. № 98). Ёсць звесткі, што белы сцяг з чырвоным крыжам Святога Георгія быў асабістым штандартам Вялікага князя Вітаўта. Дарэчы, на палатне з выявай Аршанскай бітвы 1514 года (арыгінал знаходзіцца ў Варшаве, а копія – у Оршы, у зале краязнаўчага музея) над беларускім войскам лунаюць харугвы з выявай Святога Георгія, а на дзідах сцяжкі: у белым полі чырвоны Георгіеўскі крыж: вертыкальная паласа якога дзеліць гарызантальную ў прапорцыях 1:2. Вымпелы с такім жа малюнкам потым неслі на флагштоках вайсковыя караблі Расейскай імперыі, экіпажы якіх былі ўзнагароджаны георгіеўскімі сцягамі.

Дзяржаўныя гербы іншых краін, у тым ліку і славянскіх, таксама вельмі добра гармануюць са сваімі сцягамі і раскладваюцца на іх колеры ў адпаведнасці з правіламі геральдыкі:

Польшча: сцяг – бела-чырвоны, герб – срэбны арол у чырвоным полі;

Чэхія: сцяг – бела-чырвоны, герб – срэбны леў у чырвоным полі;

Славакія: сцяг – бел-блакітна-чырвоны, герб – срэбны шасціканцовы крыж на блакітных пагорках у чырвоным полі;

Славенія: сцяг – бел-блакітна-чырвоны, герб – срэбная гара Трыглаў у блакітным полі;

Сербія: сцяг – чырвона-блакітна-белы, герб – у чырвоным полі срэбныя крыж і чатыры крэсівы;

Харватыя: сцяг – чырвона-бела-блакітны, герб – чырвона-срэбная "шахоўніца";

Югаславія: сцяг – блакітна-бела-чырвоны, герб – срэбны двухгаловы арол у чырвоным полі, на грудзях яго шчыток з нацыянальнымі гербамі Сербіі і Чарнагорыі.

Такім чынам, нацыянальныя і дзяржаўныя сімвалы большасці славянскіх дзяржаў маюць або бел-блакітна-чырвоную, або, як нацыянальныя сцягі Польшчы ці Чэхіі, бел-чырвоную камбінацыю колераў (дарэчы бела-чырвоныя сцягі маюць і землі Аўстрыі: Цыроль і Верхняя Аўстрыя, а вось сцягам Ніжняй Аўстрыі з'яўляецца блакітна-жоўты, як сцяг Украіны). Дзяржаўныя сцягі славянскіх краін, у асноўным, мала чым адрозніваюцца ад іх нацыянальных сцягаў: напрыклад, дзяржаўныя сцягі Польшчы, Славакіі, Славеніі і Харватыі адрозніваюцца ад нацыянальных сцягаў толькі прысутнасцю дзяржаўнага гербу, а дзяржаўны сцяг Чэхіі адрозніваецца ад нацыянальнага тым, што мае блакітны трохкутнік ля тронца – у памяць аб адзінай дзяржаве са Славакіяй. Зялёная паласа ж на сцягу Балгарыі з'явілася ў памяць аб нацыянальна-вызваленчай барацьбе, бо сцягамі паўстанцаў-гайдукоў былі зялёныя, пад колер хаваўшых іх лясоў, палатніны. Ды і расейскі сцяг хутчэй за ўсё склаўся з колераў герба Вялікага Княства Маскоўскага: на срэбным кані вершнік у срэбнай броні, паверх якой блакітнае карзно, у чырвоным полі забівае дзідай цмока. Дарэчы, калі нашы суседзі-літоўцы ў 1938 годзе абмяркоўвалі пытанне аб тым, якімі павінны быць іх дзяржаўныя сімвалы, вядомы мастак, беларус па паходжанню, Мсціслаў Дабужынскі прапанаваў у якасці дзяржаўнага сцягу зацвердзіць бел-чырвона-жоўты сцяг, што адпавядала б колерам герба літоўскай дзяржавы: срэбны вершнік у чырвоным полі з чырвоным шчытом, на якім залаты крыж. Менавіта такі выгляд меў і прыняты праз больш чым паўстагоддзя Дзяржаўны герб Літвы, праўда, пасля звароту некалькіх членаў Усерасейскага геральдычнага таварыства да вышэйшай улады Літвы, у яго ўнеслі істотныя змены: тарча стала блакітнай, блакітнымі ж сталі збруя і кант гунькі.



Баявы сцяжок з-пад Воршы, 1514 г.

Такім чынам, агульнымі колерамі нацыянальных сімвалаў большасці славянскіх народаў з'яўляюцца белы і чырвоны. Вытокі сімволікі бела-чырвоных колераў знаходзяцца ў другім тысячагоддзі да нашай эры. У гэты час індаеўрапейскія плямёны, сярод нашчадкаў якіх і беларускі народ, займалі вялікія тэрыторыі Еўразіі. У большасці гэтых плямёнаў шанаваліся белы і чырвоны колеры. Белы колер – колер мацярынскага малака, якое дае жыццё – асацыяваўся з карміцельскай-зямлёй, з маці-прыродай. Чырвоны колер – колер агню і крыві – сімвалізаваў вечнае жыццё. Таму белы і чырвоны колеры былі дамінальнымі і ў паўсядзённым жыцці (напрыклад, белае адзенне з чырвонай вышыўкай), і ў рытуалах (напрыклад, пры раскопках пахаванняў таго перыяду археолагі знаходзяць, што памерлыя шчодра пасыпаны чырвонай фарбай-охрай). Пазней чырвоны колер стаў колерам галоўнага Бога ўсходніх славян, Бога Святла – Даждьбога або Купалы. Блакітны ж колер – сімвал Прамаці Сусвету. У хрысціянстве блакітны колер сімвалізуе Бога-Духа Святога і Сафію Прамудрасці Божай; белы колер – душу вернага, а чырвоны – вогненную праўду слова Божага, якая пакінула свой след у гэтай душы (таму ў адзенні праваслаўных герархаў прысутнічае белая стужка з чырвонай паласой пасярэдзіне яе).

Славянская сімволіка колеру аказала рашучы ўплыў на сімволіку ўзнікшага ў XIII стагоддзі Вялікага княства Літоўска-Рускага і Жамойцкага, дзе славянскі генезіс быў панавальным: землі, на якіх жылі славяне складалі 9/10 тэрыторыі гэтай дзяржавы.

Прыкладна з XУ стагоддзя ў Вялікім княстве, у адпаведнасці з правіламі заходнееўрапейскай геральдыкі, вызначаўшай парадак раскладвання герба на колеры сцяга, сталі з'яўляцца двухкаляровыя сцягі. Выява трохпалоснага бела-чырвона-белага сцяга ёсць на адной з гравюр "Хронікі ўсяго свету" польскага гісторыка М. Бельскага, створанай у 1551 годзе. Відавочна, што гэты сцяг з'явіўся пазней польскага бела-чырвонага сцяга, бо колеры поля і фігур герба Вялікага княства і Каралеўства былі аднолькавымі, таму і пры раскладанні іх на колеры сцяга двухпалосным стаў той, які з'явіўся першым.

Але ёсць і іншыя звесткі пра паходжанне бела-чырвона-белага сцяга.

Бацька вядомага актывіста Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Я. Якубоўскага, А. Якубоўскі ўспамінаў, што, праходзячы ў 30-х гадах службу ў польскім войску, ён пачуў наступны аповед. Быццам у свой час вядомыя прадстаўнікі беларускага нацыянальнага адраджэння браты Луцкевічы знайшлі ў адным Аль-Кітабе (а сярод продкаў братоў былі татары і ў Івана Луцкевіча старажытны Аль-Кітаб быў у асабістай бібліятэцы) звесткі, што частка татар, якія прымалі ўдзел у Грунвальдскай бітве 1410 года, змагаліся пад непасрэдным началам Вітаўта у складзе харугвы, што мела бела-чырвона-белы сцяг, на чырвонай паласе якога былі нашыты белыя маладзік і зорка (такі сцяг у 1990 годзе стаў афіцыйным сімвалам Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб"). Лічачы, што бел-чырвона-белы сцяг быў асабістым сцягам папулярнага ў Беларусі Вялікага князя Вітаўта, браты сталі прапагандаваць бел-чырвона-белы сцяг як гістарычны сцяг беларусаў.

На жаль, так і не ўдалося знайсці той Аль-Кітаб, які б падцвердзіў бы гіпотэзу братоў Луцкевічаў, але з іх лёгкай рукі бел-чырвона-белы сцяг атрымаў распаўсюджанне ў розных колах нацыянальнага руху, з'явілася нават і легенда аб узнікненні бела-чырвона-белага сцяга. Яна апавядае, што аднойчы ў жорсткай бітве з рыцарамі-крыжакамі быў смяротна паранены князь, які быў начале дружыны, варожы меч рассек яму галаву. Воіны вынеслі князя з бою і перавязалі яго параненую галаву стужкай белага палатна. Але дружына, што засталася без свайго князя, не вытрымала націску ворага і пачала адступаць. Тады паранены князь сабраў усе свае сілы, падняўся, сарваў з галавы павязку, разгарнуў яе як сцяг і пайшоў у пекла бітвы. Убачыўшы гэта, беларускія воіны атакавалі ворага і разбілі яго ўшчэнт. А белая палатніна з чырвонай паласой пасярэдзіне стала сімвалам мужнасці і адвагі.



Сцяг "Аль-Кітаба"





# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЦЯГ БЕЛАРУСАЎ

Пасля Люблінскай вуніі 1569 года, аб'яднаўшай абедзве дзяржавы ў Рэч Паспалітую, прадпрымаліся спробы зрабіць сцяг гэтай дзяржавы шляхам камбінацыі колераў гербаў Вялікага княства і Каралеўства. Так, кладная дата гэтай падзеі, на жаль, не названа. Але магчыма, што К. Дуж-Душэўскі зрабіў малюнак уже існаваўшага раней бела-чырвона-белага сцяга. На карысць таго, што бела-чырвона-белы сцяг існаваў



Сцяг Рэчы Паспалітай

Уладзіслаў IV выкарыстоўваў чырвона-бела-чырвоны дзяржаўны сцяг Рэчы Паспалітай, што цалкам адпавядала колерам гербаў каралеўства і Вялікага княства, спалучэнне якіх складала дзяржаўны герб Рэчы Паспалітай. На палатне, дзе паказаны шлюбны ўезд Жыгімонта III Вазы і каралевы Канстанцыі ў Кракаў у 1605 годзе ёсць выява сцяга, які кароль Жыгімонт выкарыстоўваў у якасці дзяржаўнага, яго складалі тры роўныя па шырыні гарызантальныя паласы: чырвоная, белая і чырвоная; у цэнтры палатна быў дзяржаўны герб Рэчы Паспалітай. У 1609-1616 гадах у якасці дзяржаўнага выкарыстоўваўся падобны, але чатырохпалосны сцяг: бела-чырвона-бела-чырвоны. Зараз падобны сцяг знаходзіцца ў каралеўскім музеі Стакгольма. На рубяжы XVII-XVIII стагоддзяў былі спробы зацвердзіць у якасці дзяржаўнага сцяга Вялікага княства нават чырвона-белы сцяг.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай практычна ўся тэрыторыя цяперашняй Беларусі апынулася ў складзе Расейскай імперыі. У гэты перыяд было забаронена нават ужыванне назвы Беларусь, не кажучы ўжо аб магчымасці выкарыстання нацыянальнага сцяга, хаця элементы нацыянальнай сімволікі выкарыстоўваліся некаторы час, да паўстання 1863 года, у сімволіцы вайсковых частак расейскай арміі, якія былі сфармаваны з ураджэнцаў Беларусі.

Магчыма, што пытанне пра тое, якім быць беларускаму нацыянальнаму сцягу, паўставала ў час з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый, што праходзіў у Менску 25 – 27 сакавіка 1917 года. На жаль, ніякіх дакументаў не захавалася, але ёсць успаміны ўдзельнікаў тых падзей, праўда запісаныя праз некалькі год. Так, адзін з дзеячоў беларускага нацыянальнага руху К. Дуж-Душэўскі ў сваіх мемуарах у 30-х гадах, успамінае, што калі паўстала пытанне аб тым якім быць дзяржаўнаму сцягу, ён зрабіў некалькі яго праектных эскізаў, з якіх быў ухвалены праект бела-чырвона-белага сцяга. Да да пачатку з'езду гавораць наступныя факты:

- 1863 годзе на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай успыхнула паўстанне. Першапачаткова паўстанцы выступалі пад польскім бела-чырвоным сцягам, але мающа ўскосныя сведчанні, што К. Каліноўскі выкарыстоўваў і бела-чырвона-белы сцяг;

- у 1870 годзе студэнцкае брацтва младалатышоў абмяркоўвала, якім быць нацыянальнаму сцягу, але магчыма, што сяроД іх аказаўся ўдзельнік або сведка паўстання К. Каліноўскага, таму праект бела-чырвона-белага сцяга быў адхілены, бо "у такой камбінацыі ён супадаў са сцягам беларусаў";

- мающа таксама звесткі, што бела-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваў у канцы XIX стагоддзя пецярбургскія студэнты-ліцьвіны (беларусы) пры правядзенні культурна-асветніцкіх вечарын. Аб удзеле ў адной з іх успамінаў Я. Купала;

- у 1916 годзе ў Пецярбургу беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны вывешваў на сваім будынку бела-чырвона-белы сцяг;

- пад час праходзіўшага ў Менску 12 сакавіка 1917 года "Дня беларускага значка" распаўсюджваліся значкі бела-чырвона-белых колераў.

А вось ва ўспамінах іншых дзеячаў нацыянальнага руху ёсць звесткі, што пры адкрыцці з'езду 25 сакавіка быў вывешаны белы сцяг, які павінен быў сімвалізаваць Белую Русь, але гэты сцяг выклікаў дружныя пярэчанні дэпутатаў, бо белы сцяг зарэкамендаваў сябе як сцяг капітуляцыі. Тады на паседжанні толькі што створанага Беларускага Нацыянальнага Камітэту было разгледжана пытанне аб сімволіцы, дзе быў зацверджаны прапанаваны Дуж-Душэўскім праект. Тады таксама было прынята і рашэнне аб вырабе сцягаў і распаўсюджанні іх ва ўсе мясцовыя арганізацыі. Па ўспамінам Р. Астроўскага, менавіта такі, бела-чырвона-белы сцяг, на палатніне якога залатымі літарамі было вышыта "Няхай жыве вольная Беларусь!", ён асабіста атрымаў у траўні 1917 года ў Слуцку, дзе тады працаваў. У выдаваўшыхся ў той час газетах таксама ёсць звесткі аб існаванні бела-чырвона-белага сцяга, прычым у некалькіх варыянтах: сцяг без надпісаў або выяў; сцяг з нашытымі або вышытымі дэвізамі; сцяг, на адным баку якога выява "Пагоні" ў промнях узыходзячага сонца. Сімволіка колераў сцяга тлумачылася так: белы колер сімвалізуе назву краіны і напамінае аб тым, што Беларусь была вольнай, незалежнай дзяржавай, калі астатнія усходнеславянскія землі знаходзіліся пад мангола-татарскім прыгнётам; чырвоны сімвалізуе нацыянальную рэвалюцыю і ўзыходзячае сонца, як сімвал нацыянальнага адраджэння і вызвалення.

Гэты сцяг атрымаў народнае прызнанне. Так, у Статуце беларускіх нацыянальных культурна-асветніцкіх гурткоў у войску, які быў прыняты 5 жніўня 1917 года на Першай сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, было запісана: "Кожны член беларускай грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак – белая стужка з чырвонай палоскай пасярэдзіне; усе тры палоскі – белая, чырвоная і белая – аднолькавай шырыні" (Тутук Ф. Беларускі рух. М., 1921, дадатак №11, стар.91).

Хаця ў час бальшавіцкай улады бела-чырвона-белы сцяг быў забаронены, але не быў забыты. Па некаторым звесткам, ён быў вывешаны на будынку, дзе раней размяшчаўся Народны Сакратарыят, яшчэ 19 лютага 1918 года, як толькі бальшавікі эвакуяваліся з Менска, але сцяг быў сарваны немцамі, якія хутка ўступілі ў горад.

Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці ад Расеі, бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" сталі выкарыстоўвацца ў якасці дзяржаўных сімвалаў маладой рэспублікі. Нарматыўна сцяг быў зацверджаны Сакратарыятам БНР 5 жніўня 1918 года, аб чым 11 жніўня паведаміла газета "Вольная Беларусь".

Пасля ўтварэння 30 снежня 1922 года СССР, у Беларусі стала праводзіцца палітыка развіцця нацыянальнай культуры. Напрыклад, на беларускай мове вялося справаводства, выкладанне ў ВНУ, яна вывучалася ў вайсковых часцях, нават былі выдадзены на беларускай мове вайсковыя статуты і быў распрацаваны слоўнік каманднай лексікі. У рэчышчы гэтай палітыкі ў 1926 годзе была зроблена спроба прыняць беларускі нацыянальны сцяг у якасці дзяржаўнага сцяга рэспублікі. З гэтай прапановай выступіў старшыня ЦВК БССР Я. А. Адамовіч. Аднак, неўзабаве ён быў рэпрэсаваны і больш такіх прапаноў ніхто зрабіць не адважыўся.

У БССР бела-чырвона-белы сцяг і "Пагоня" былі забаронены, а ў Заходняй Беларусі, якая адышла паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 года да Польшчы, нацыянальныя беларускія сімвалы працягвалі выкарыстоўвацца беларускім насельніцтвам. Так кукарды вучняў Віленскай гімназіі мелі бела-чырвона-белыя палосы, нацыянальныя сімвалы размяшчаліся ў беларускіх чытальнях і клубах, нават Чырвоную Армію 17 верасня 1939 года сустракалі не толькі з чырвонымі сцягамі, а і з бела-чырвона-белымі.

У час Вялікай Айчыннай вайны нямецкія акупацыйныя улады, з мэтай прыцягнення на свой бок беларусаў, пацярпелых ад бальшавіцкіх рэпрэсій, дазволілі абмежаванае выкарыстанне беларускай нацыянальнай сімволікі. Аб гэтым сведчыць публікацыя 6 верасня 1942 года ў беларускай газеце "Раніца" (выдавалася ў Берліне), у якой сказана, што 27 ліпеня 1942 года генеральны камісар В. Кубэ аддаў спецыяльнае распараджэнне, якім дазволіў пры правядзенні ўрачыстасцяў выкарыстоўваць бела-чырвона-белы сцяг і "Пагоню". Дазвол на выкарыстанне нацыянальных сімвалаў фактычна азначаў прызнанне права беларусаў на ўтварэнне ўласнай аўтаномнай дзяржавы ў складзе Германскага рэйха, але гітлераўскае кіраўніцтва мела ў дачыненні да Беларусі зусім іншыя намеры.

У канцы 80-х гадоў, з ростам нацыянальнага руху, бела-чырвона-белы сцяг адрадзіўся зноў. Упершыню некалькі бела-чырвона-белых сцягоў былі падняты прыхільнікамі Беларускага Народнага Фронту 30 кастрычніка 1988 года ў Менску, у час святкавання "Дзядоў", пасля чаго супраць удзельнікаў акцыі былі кінуты падраздзяленні міліцыі. Але ўжо на мітынгу 19 лютага 1989 года, калі на цяперашнюю плошчу Незалежнасці беларускай сталіцы, сабралася некалькі тысяч рабочых менскіх заводаў, над людскім морам трапятала мора бела-чырвона-белых сцягоў.



Сцяг ГА БНФ "Адраджэньне"

У перыяд паміж 17 і 23 верасня 1989 года Прэзідыюм Менскага гарадскога савета народных дэпутатаў прыняў пастанову "Аб беларускай нацыянальнай сімволіцы і яе выкарыстанні ў Менску", згодна якой усе арганізацыі, дзяржаўныя і грамадкія установы і жыхары атрымалі права адначасова з Дзяржаўнымі сімваламі БССР выкарыстоўваць на тэрыторыі Менска і беларускую нацыянальную сімволіку. Акрамя таго, на паседжанні гарсавета была прапанова падняць над будынкам гарсавета беларускі нацыянальны сцяг, але для яе прыняцця не хапіла аднаго голасу.

27 ліпеня 1990 года Беларуская ССР аб'явіла аб сваім суверэнітэце, а 25 жніўня 1991 года Беларусь стала незалежнай краінай. У парадак дня Шостай пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі было ўключана пытанне аб дзяржаўнай сімволіцы. Калі аб гэтым стала вядома, то дэпутаты ад апазіцыі, большасць якіх складалі сябры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне", разгарнулі сяроД дэпутатаў Вярхоўнага Савета тлумачальна-агітацыйную працу па прапагандзе беларускіх нацыянальных сімвалаў: бела-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня". Гэта праца, а таксама праведзеныя ў канцы 80-х гадоў "круглыя сталы" па нацыянальнай сімволіцы і зварот супрацоўнікаў Інстытута Гісторыі АН рэспублікі да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, зрабілі сваю справу і 19 верасня 1991 года Вярхоўны Савет краіны прыняў Закон аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь, дзе сказана: "Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна размешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй белага, а сярэдняй – чырвонага колера. Адносіны шырыні сцяга да яго даўжыні – 1 : 2".

10 снежня 1991 года Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь было зацверджана Палажэнне аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь, дзе таксама прыведзена апісанне сцяга і ўстаноўлены парадак яго выкарыстання.

Параўноўваючы ўсе славянскія сцягі, можна заўважыць, што не ўсе магчымыя спалучэнні белага, блакітнага і чырвонага колераў выкарыстаны. На самой справе:

Бела-блакітна-чырвоныя сцягі Расеі, Славакіі і Славеніі;

Блакітна-бела-чырвоны – Югаславіі;

Чырвона-бела-блакітны – Харватыі;

Чырвона-блакітна-белыя – Сербіі і Чарнагорыі;

Застаюцца невыкарыстанымі толькі бела-чырвона-блакітнае і блакітна-чырвона-белае спалучэнні. Прычым, абодва гэтыя спалучэнні адрозніваюцца ад вядомага нацыянальнага беларускага сцяга толькі адной блакітнай паласой, якая не парушае яго асноўны малюнак. З гістарычных крыніц вядома, што былі спробы змясціць блакітны колер на бел-чырвона-белым сцягу, што рабіла б яго падобным на сцягі іншых славянскіх народаў. Напрыклад:

- у 1917 годзе, на I Усебеларускім з'езде ў якасці Дзяржаўнага сцяга Беларусі быў прапанаваны праект чырвана-бела-блакітнага сцяга (такі зараз Дзяржаўны сцяг Харватыі), але чамусьці гэты праект не быў зацверджаны;

- на чорна-белым фотаздымку перыяда 1919-1925 гадоў, калі ўрад БНР знаходзіўся ў эміграцыі ў Вільні, цэнтральная паласа, безумоўна бела-чырвона-белага, Дзяржаўнага сцяга БНР мае кант з вузкіх палосак больш цёмнага колеру, шырынёй прыкладна ў 1/16 шырыні самога сцяга. Выказваліся меркаванні, што колер гэтых палосак чорны – у знак смутку аб Радзіме, дзе ўсталявалася бальшавіцкая ўлада. Але больш праўдападобна, што палоскі былі блакітнага колеру. Тады апісанне герба арганічна спалучаецца з апісаннем сцяга, падкрэсліваючы іх узаемасувязь: на срэбным кані срэбны вершнік з паднятым мячом і блакітным шчытом, скача ў чырвоным полі, на блакітным шчыце – срэбны падвоены крыж; так і колеры сцяга: белы, блакітны, чырвоны, блакітны, белы. Шчыт жа вершніка "Пагоні" быў блакітнага колеру і, пры раскладанні герба на колеры сцяга, сцяг павінен быць трохпалосны, як сцягі іншых славянскіх народаў, таму, каб не паўтараць славянскія сцягі з белай, чырвонай і блакітнай гарызантальных палос розных камбінацый, і былі размешчаны блакітныя палоскі паміж чырвонай і белымі палосамі.

Менавіта зыходзячы з таго, што колеры нацыянальных герба белы, чырвоны і блакітны, быў распрацаваны праект сцяга Беларускага згуртавання вайскоўцаў, вайскоўцаў запасу, асоб у адстаўцы і іншых грамадзян, якое больш вядома як БЗВ. Сцяг уяўляе сабой бел-чырвона-белае палотнішча, ля дрэўка яго размешчаны блакітны роўнабаковы трохкутнік (даўжыня яго бакоў роўна шырыні сцяга) у якім белы падвоены крыж. Сцяг зацверджаны рашэннем Каардынацыйнай Рады Патрыятычнага Руху ад 13 красавіка 1997 года, пратакол № 5.

Такім чынам у беларускай сімволіцы цалкам апраўдана, зыходзячы з гістарычных традыцый нашага народу, ужыванне белага, чырвонага і блакітнага колераў. На жаль, гістарычны досвед геральдыкі і вексілалогіі не быў запатрабаваны пры "геральдычным пераваросце" ў 1995 годзе.

*Спаткай Леанід Уладзіміравіч, праваДзейны сябар Усерасейскага геральдычнага таварыства.*

## Даўнейшыя дакументы на старабеларускай мове

### Пра мястэчка Косава ў Берасцейскай вобласці

У кнізе Акты Галоўнага Літоўскага трыбуналу за ХУІ ст. змешчаны “Инвентаръ именья Косава въ Слонимскомъ повете, разделенного между князем Г. Сангушкомъ и Н.Кишкой”, складзены ў 1597 г. Ён вялікі, на сямі аркушах, напісаны на тагачаснай дзелавой беларускай мове. Мяне зацікавіла не толькі яго мова, але і багаты змест. Гэта “Реестры списанья двора, фольварковъ, местечка и волости именья Косовского, разделокъ чинечи на две части ровные тоготъ именья...”.

Спачатку апісаны падзел пляцаў “селидьбы дворное двора Косовского и будованья на немъ будучого и огороду овощевого, при дворе лежачего... Домъ под городищемъ, изба не малая тесаная... на противку изба-тъ белая зъ дерева облого... печивъ нихъ поливаные старые съ коминами простыми; вътыхъ избахъ оболонъ скляныхъ у въ оловъ оправова ныхъ по чотыри (шыбы)... Стаень две... кухня великая старая, пекарня великая, броваръ старый, бойничка, холодника... дерева тесаного – пану Кишку. Домъ надъ ставомъ въ долине збудованый, избы белые две, комнатенъ три, при бокахъ, окна шкляные... свиренковъ старых два, солодовня, лазня зъ сенцами, стаенька малая при псарни сполне съ псарнею; ... холодника, который збудованъ двора... - пану Сангушку”.

Далей ідзе апісанне фальварка Марачоўшчына. Упэўнены, што гэта пазнейшае ўладанне продкаў Тадэвуша Касцюшкі, толькі невядома, калі яны сталі яго ўласнікамі, бо спачатку мелі іншы. Пісьменнік У. Арлоў піша, што Тадэвуш нарадзіўся ў 1745 (46)г. у старым беларускім шляхецкім родзе, дзяцінства прайшло ў бацькоўскім маёнтку Мерачоўшчына паблізу ад мястэчка Косава (цяпер Івацэвіцкі раён). Не супадае адна літара “е – а”, але ж прайшло так шмат часу... Вось яго апісанне.

“Фольваракъ Косовский на Марачовщине, въ которомъ будованье: светличка зъ сенью, напротивъ комора драницами побитая, домъ добрый, клеточка на пивницы (погребе), пивничка старая, воротъ двои лихихъ (дрэнных), сырница новая зъ кганкомъ, на столпьи, подъ нею холодникъ съ прутьевъ уробленъ, гридня (комната) великая съ сенью, напротивъ изба старая дощками покрыта, стайня новая великая, соломою покрыта... гумно великое у петнадцаць стенъ, другое меньшое, оба гумна досыть добры, одрына сенная великая, одрына малая, евья (для сушкі снапоў), сверенъ великий добрый зъ кганкомъ...”. Далей пашні, распалажэнне тых палёў, пералічаны імёны агароднікаў (беззямельныя сяляне): “при томъ фальварку Марачковскомъ личбою осьмь, а подъ ними одна волока”(21,3 га).

У рэестры мястэчка Косава мяне зацікавіла апісанне галоўнай вуліцы. “Въ той переи (бок вуліцы) церковъ заложенья светого Семена, вжо зветшалая и въ самой церкви згола ничого накладу, ани книгъ церковныхъ нетъ, келихъ цыновый старый, а звоновъ при церкви завешоныхъ малых два. При той же переи стодола дворная (для коней і вазоў пры карчме), светлица, изба чорная (без коміна), ведь же вжо будованье старое и огороду до нее нетъ... Корчомъ в той перш показалося: медовыхъ одна, пивныхъ пять, горелчаныхъ пять, резниковъ... два...”.

Другая перея: костелъ збудованый еще новый въ немъ згола ничого охендозтва и накладу ещо нетъ, потомужъ и наданья никоторого пляцовъ ани огородовъ при месте не маетъ. Дали справу (тлумачэнне) войт и вси мещане Косовские, что звонъ былъ одинъ великий... але пани Мокгильницкая кзды въ тыхъ минувшихъ недавнихъ летахъ Косовъ держала, тотъ звонъ до имения своего на Подляшье отправодила. Корчомъ на той переи показался: медовыхъ одна, пивныхъ чотыри, горелчаныхъ три, резниковъ два.

Сумариутъ: во всемъ местечку въ обеихъ переяосъ и въ улице рожанской корчомъ медовыхъ две, пивныхъ двадцать, горелчаныхъ дванадцать, плацечи съ каждое корчмы по копе грошей. Резниковъ чотыре съ которыхъ брано по каменю лою (мера ваги – 36 фнт)...”.

У рэестры названы прозвішчы ўсіх мяшчан Косава, далей спісаны воласць Косаўская, сёлы, іх жыхары і грунты: сёлы Куляшы, Мілейкі, Хадоркі, Квасовічы, Юрашкі, фальварак Савіцкоўскі, сяло Скураты, Ючэвічы і др., перапісаны баяры маёнтка, павіннасці – абавязкі ўсіх звалок. Рэестр склаў Г. Трызна – падкаморны Слонімскі, прысутнічалі два возныя (судовыя чыны), пяць шляхціцаў “приложили печати свое, а умеючие и руки подписали”.

Заўвагі: ёсць знаёмыя і ў нас прозвішчы: Маліноўскі, Яновіч, Пашкевіч, Кравец, Лукашэвіч, Лопух... Слова халодника – лядоўня, мабыць. Продкі Тадэвуша Касцюшкі спачатку валодалі маёнткам Сяхновічы. Палац у Косаве пабудаваны толькі ў XIX ст.

### Пра маёнтак Дзераўная каля Слоніма

У кнізе інвентароў Галоўнага Літоўскага трыбуналу за ХУІ ст. змешчаны “Актъ раздзела между Соколовской и Стабровскими въ именьи Деревной въ Слонимскомъ повете”, складзены у 1586 г. Ён напісаны тагачаснай дзелавой беларускай мовай, якая гучыць так:

“Реестръ учиненый списанья людей, кгрунтовъ всякихъ именья Деревенского, въ повете Слонимскомъ лежачого, отъ мене Григория Тризны – подкоморого – Поданые такъ имены названы суть (пералік ідзе). Напервей: за тымъ дворомъ Деревенскимъ земли погною на трохъ местцахъ, съ того три части черезъ волочника померою отмеривши и отделевши пане Соколовской подалъ, а на пана Стабровского и малжонку равную часть четвертую имъ належачую въ томъ крунте отогнал сохою за межою оставилъ.

Поле простае подъ урочищамъ Пещаница, подъ Кошчичами, на Семировщине, за заемъ Высокимъ, на Старымъ поли, врочищомъ Волеватка, у Пищикова Луга, нива Петковская, под Моковищемъ, сеножать у Мехова, подле реки Черничное, за рекою Деревною, отъ дороги Молчадское къ дорозе Бельской... знаки и натёсы певные полажилъ.

А въ дворе самомъ въ будованью... найпервей: домъ драницами побитый, светлица малеваная съ коморою, зъ боку сень зъ кухонкою и зъ светличкою, у светлицахъ печи поливаные старые. Такъ же прпотивъ того дому светлица зъ сеньми и зъ кганкомъ и къ тому снижарня съ пивницею и свирна подле кухни... Стайня, хлевъ, гумно рубленое и одрины две къ нему, то тые хоромы пани Соколовской, а пану Стабровскому... хоромъ четвертую, тоесть: половица кухни, лазня, противъ светлица за вороты, пивница у дворе, хлева половница, у гумне одрина рубленая. Пляцъ дворный и гуменный, садъ, студня, огородъ овощовый, выпусты, телятникъ, гай ольховый, въ ставахъ двухъ, въ сажавкахъ двухъ и въ млыне...

Писанъ у Деревной. Тая справа до книгъ моихъ подкоморскихъ есть списана, а при томъ не мало шляхты людей добрыхъ повету Слонимского, земян господарскихъ (королевских) были”.

***Тлумачэнне:*** *у канцы слоў пасля кожнай зычнай літары тады пісалі ъ. Спалучэнне літар кг абазначала выбуховае (узрыўное) г: ганак, грунт.*

***Міхась Пузіноўскі, г. Ашмяны.***

# “Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года”

## XLIV. Альгерд, Вялікі князь Літоўскі. 1330-1345 гг.

**Словы Я.Чачота**
**Пераклад К. Цвіркі**
**Музыка П. Русава**

Альгерд -- Вялікі князь Літоўскі ў 1345 - 1377 гадах, трэці паводле старшынства сын Гедыміна, адзін з наймагутнейшых уладароў Вялікага Княства Літоўскага. Здольны палітык. Два разы браў Маскву, але не знішчаў, пакідаючы на ўсходніх межах у якасці заслоны ад Арды. Вызваліў Украіну ад мангольскага ярма. Пасунуў межы Вялікага княства да Чорнага мора. Меў пяць дачок і дванаццаць сыноў. Найбольш знакаміты з яго сыноў Вялікі князь Літоўскі і кароль польскі Ягайла.

Альгерд любіў загадваць, але шанаваў правы кожнага чалавека. Ахвотна снаваў ваенныя планы, але найбольш цешыўся, калі дасягаў сваіх задумаў палітычна, а не праз сілу і праліцце крыві.

Рухава

Як да-гнаць жаў-рон-ку цяж-ка ар-ла
ма-ла-до - га, так па - э - ту цяж-ка ўсла-віць пес-няй му - жа
то - га. У - тай моў-ваў кры-жа-коў ён, роз-ны-я пля-
-мё - ны. У Аль-гер - да ўрад быў муд-ры, доб-ры - я за-
-ко - ны. Каб у - се бы - лі та-кі - я, што ся-дзяць на
тро - не, на зям-лі кры-вёй па - лі - тай быў бы мір па
сён - ня. Люд да іх, як да Аль-гер - да, жы - ву - чы ў дас-
-тат - ку, праз вя - кі сва - ю па-ша - ну пе-ра - даў наш-чад-ку.

Як дагнаць жаўронку цяжка
Арла маладога,
Так паэту цяжка ўславіць
Песняй мужа тога.

Утаймоўваў крыжакоў ён,
Розныя плямёны.
У Альгерда ўрад быў мудры,
Добрыя законы.

А чужынец лез -- дадому
З роднай гнаў святліцы.
Прысланяў сваё кап’ё ён
Да яго ж сталіцы.

Быў ён грозны, ды гатовы
Да суседскай згоды.
“Не хачу, казаў, каб марна
Кроў лілі народы”.

Каб усе былі такія,
Што сядзяць на троне,
На зямлі крывёй палітай
Быў бы мір па сёння.

Люд да іх, як да Альгерда,
Жывучы ў дастатку,
Праз вякі сваю пашану
Перадаў нашчадку.

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 7. 05. 2001 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 1229.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 242 руб., 3 мес.- 726 руб.
*Кошт у розніцу:* 70 руб.